МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ “ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

№6 (134)
чэрвень 2013

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ФЕСТЫВАЛЬ AD.NAK! – У РЭЧЫШЧЫ СУСВЕТНЫХ ТРЭНДАЎ

Чацвёрты Фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK! падвёў вынікі развіцця беларускамоўнага рэкламнага рынку і вызначыў найлепшых.

*Працяг на стар. 3*

### СВЯТА АГНЮ, ЗЯМЛІ І ВАДЫ

Купалле адзначыла Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага.

*Працяг на стар. 3*

### ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ ВЯЛІКАБРЫТАНІІ ЎЗНАЧАЛІЎ МІКОЛА ПАЧКАЕЎ

Адна з найстарэйшых арганізацый беларускай эміграцыі — Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі — абрала новае кіраўніцтва.

*Працяг на стар.5*

### БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У ГАЙНАЎЦЫ. 30 ГАДОЎ – ГІСТОРЫЯ – ФАКТЫ – ЛЮДЗІ

Пад такой назвай да 30-годдзя Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы была выдадзеная манаграфія пад рэдакцыяй Тамаша Ціханюка.

*Працяг на стар. 6*

З’ЕЗД

## АЛЕНА МАКОЎСКАЯ: БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА – САМЫЯ МОЦНЫЯ ПРЫХІЛЬНІКІ БЕЛАРУСІ І ЯЕ КУЛЬТУРЫ

Міністэрства замежных справаў Беларусі займаецца распрацоўкай праекта закона “Аб беларусах замежжа”. Закон мае мець рамкавы характар і быць накіраваным на гарманізацыю беларускага заканадаўства ў сферы супрацы з беларусамі замежжа. Беларускія ўлады падкрэсліваюць тое, што закон не будзе ствараць якіх-колечы абмежаванняў па прыкмеце этнічнасці і будзе базавацца на ўключальным падыходзе, ахопліваючы “ўсіх, хто вызнача сябе як беларусаў, хто мае сувязі з Беларуссю і жадае гэтыя сувязі захаваць”. Паведамляецца, што беларускія дыпламатычныя місіі ў Латвіі, Літве, Расіі, Украіне і Польшчы перадалі канцэпцыю праекта закона прадстаўнікам тамтэйшых беларусаў, якія выказалі свае заўвагі і каментары. Чакаецца, што новы закон дапаможа інтэнсіфікацыі і ўзмацненню сувязяў паміж беларускай дзяржавай і беларускімі супольнасцямі ў замежжы, а таксама паспрыяе захаванню імі сваёй нацыянальнай і культурнай ідэнтычнасці. Беларуская дыяспара, паводле ацэнак дзяржавы, складае некалькі мільёнаў асобаў беларускага паходжання і больш за 200 беларускіх арганізацыяў ва ўсім свеце. Патэнцыял беларускай дыяспары “можа быць выкарыстаны дзеля стымулявання эканамічнага росту, прыцягвання інвестыцыяў, прасоўвання знешнепалітычных інтарэсаў Беларусі і ўмацавання суверэнітэту краіны”. Алена Макоўская, кіраўнік МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” дае сваю ацэнку неабходнасці новага закона “Аб беларусах замежжа” і ягоных перспектываў для беларускіх меншасцяў і дыяспараў у свеце.



*Алена Макоўская*

Алена Макоўская: “Патрэба ў прыняцці закона, які б рэгуляваў стасункі Рэспублікі Беларусь з беларускім замежжам, наспела ўжо вельмі даўно. “Бацькаўшчына” апякуецца гэтым пытаннем больш за 10 гадоў, яшчэ з 2000 года, калі пачалася падрыхтоўка да Трэцяга з’езду беларусаў свету. На той час практычна скончылася дзеянне дзяржаўнай праграмы “Беларусы ў свеце” (1993 г.), якая была распрацавана Акадэміяй навук Беларусі напярэдадні Першага з’езду. Актуальнасць прыняцця закона палягае ў наступным: па-за межамі Беларусі пражывае больш за тры мільёны нашых суайчыннікаў. Пэўная іх колькасць аб’ядналася ў арганізацыі беларускай дыяспары рознай ступені актыўнасці. Час ідзе, і перапісы насельніцтва ў за-





# АЛЕНА МАКОЎСКАЯ: БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА – САМЫЯ МОЦНЫЯ ПРЫХІЛЬНІКІ БЕЛАРУСІ І ЯЕ КУЛЬТУРЫ

*Працяг. Пачатак на с.1*

межных краінах сведчаць пра памяншэнне колькасці беларускай дыяспары. Прычынай таму – асіміляцыя, што з'яўляецца натуральным працэсам, але гэтыя тэмпы маглі б значна паменшыцца пры наяўнасці сістэмнай працы беларускай дзяржавы з беларускім замежжам – гэта найперш закон, які павінен пакласці заканадаўчую глебу для гэтай супрацы, афіцыйна замацаваць статус беларуса замежжа і вызначыць прававыя ўзаемадачыненні бакоў, узаемныя правы і абавязкі.

Увесь той час, пакуль беларуская дзяржава не лічыла пытанні ўзаемаадносінаў з беларускім замежжам прыярытэтам сваёй знешнепалітычнай дзейнасці, мы гублялі: гублялі людзей, гублялі моцны патэнцыял, рэсурсы, гублялі і ў іміджы. Вялікая колькасць краінаў імкнецца належным чынам наладзіць супрацу з сваімі дыяспарамі, такім чынам умацоўваючы сваю прысутнасць у свеце, фарміруючы свой імідж, лаяльнасць да сябе і сваёй культуры. Некаторыя краіны робяць яшчэ адзін крок наперад – ствараючы інстытуты сваёй культуры, але мы пакуль можам толькі марыць пра гэта. Падаецца, гэта аксіёма – калі ёсць беларусы, якія ў далечыні ад сваёй гістарычнай радзімы займаюцца беларускай дзейнасцю, яны мусяць быць усяляк падтрыманыя ў гэтым сваёй дзяржавай. І карысць ад гэтай супрацы атрымлівае як беларуская дыяспара, так і Рэспубліка Беларусь. Паглядзіце, хто першым у 1990-я гады адгукнуўся на патрэбу Беларусі ў аднаўленні гістарычных помнікаў, на патрэбу ў дапамозе пацярпелым ад Чарнобыльскай аварыі – беларусы замежжа. Хто падчас панавання Савецкага Саюза захоўваў нашую мову і нашыя традыцыі – беларусы замежжа. Хто сёння самыя моцныя прыхільнікі Беларусі, яе культуры – беларусы замежжа!

Так, беларусы замежжа па-рознаму ацэньваюць сённяшні палітычны лад Беларусі, але адчуванне спрычынёнасці да нацыі, да краіны не на гэтым фармуецца і трымаецца, а на значна больш грунтоўных і глабальных рэчах – любові да гісторыі, мовы, культуры, людзей, зямлі! І гэта не мусіць быць аднабаковым працэсам. Дзяржава таксама мусіць рабіць аб'ядноўчыя захады. І ў гэтым пераліку закон – вельмі важны крок. Да яго прыняцця пытанне ўзаемаадносінаў з беларускай дыяспарай знаходзілася ў кампетэнцыі некаторых аддзелаў у складзе Міністэрства культуры, адукацыі, а таксама Апарату ўпаўнаважанага па справах рэлігіі. І супрацоўніцтва ішло і ідзе кропкава, і найперш у эканамічным кірунку. Калі казаць пра Міністэрства замежных справаў, то гэтае пытанне залежала шмат у чым ад актыўнасці, уласнай ініцыятыўнасці і кампетэнтнасці беларускіх амбасадараў гэтых краінаў. У адных краінах амбасады наладжваюць супрацу і актыўна камунікуюць з беларускімі арганізацыямі, у іншых – выконваюць назіральную і кантралюючую функцыі, у сувязі з чым частка беларусаў імкнецца проста трымацца на адлегласці ад гэтай увагі. Такое стаўленне дае негатыўныя наступствы. Сёння складана сказаць, колькі беларусаў жыве па-за межамі краіны – частка, карыстаючыся адсутнасцю мяжы з Расіяй, проста працуе там, захоўваючы грамадзянства Беларусі, а частка – у асноўным беларусы з далёкага замежжа – мае два пашпарты, каб не выходзіць з грамадзянства, улічваючы, што гэта вельмі складаны працэс. Прыняцце закона створыць афіцыйны падмурак сістэмных узаемадачыненняў, калі любы беларус замежжа зможа апеляваць да яго. Асабліва важна, каб гэты закон быў напоўнены канкрэтным зместам і быў законам прамога дзеяння. "Бацькаўшчына" неаднаразова накіроўвала свае прапановы, што былі сфармуляваныя на з'ездах беларусаў свету, у дзяржаўныя органы Беларусі, мы таксама перакладалі на беларускую мову і аналізавалі заканадаўства іншых унітарных краінаў у сферы супрацы з дыяспарамі ў складзе працоўнай групы па распрацоўцы законапраекта, але апошні праект закона, на жаль, не бачылі. Мы спадзяемся, што былі пачутыя!"

*Гэты артыкул з'явіўся па-англійску ў Belarusian Review, Vol. 25, No. 2.*



## ДА ЎВАГІ ДЭЛЕГАТАЎ ШОСТАГА З'ЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Шаноўныя дэлегаты Шостага з'езду беларусаў свету!

Просім тых з вас, каму для ўдзелу ў З'ездзе, які адбудзецца ў Мінску, патрэбная **віза**, тэрмінова звярнуцца да Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" для атрымання хадайніцтва на атрыманне бясплатнай візы ("запрашэння на візу").

Нашыя кантакты:
Тэл: +375 17 200 70 27
Факс: +375 17 203 10 12
e-mail: zbsb@tut.by

Тых з вас, хто ўжо мае такое хадайніцтва, просім падаць яго разам з неабходнымі дакументамі ў адпаведную амбасаду або консульства, абавязкова ўказаўшы ў анкеце-заяве, што Вы звяртаецеся па бясплатную візу.



**ШОСТЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ**
**23-24 ЛІПЕНЯ 2013 ГОДА**
**МІНСК**

## АКРЭДЫТАЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ ПАДЧАС ШОСТАГА З'ЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Для працы журналістаў падчас Шостага з'езду беларусаў свету патрабуецца акрэдытацыя. Для таго, каб яе атрымаць, трэба папярэдне на электронны адрас zbsb@tut.by падаць **заяўку** з наступнай інфармацыяй:

імя і прозвішча прадстаўніка СМІ,
назва СМІ,
кантактныя дадзеныя прадстаўніка СМІ.

Гэта патрэбна зрабіць не пазней за 16 ліпеня.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ФЕСТЫВАЛЬ AD.NAK! – У РЭЧЫШЧЫ СУСВЕТНЫХ ТРЭНДАЎ

Чацвёрты Фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK! падвёў вынікі развіцця беларускамоўнага рэкламнага рынку і вызначыў найлепшых. Цырымонія ўзнагароджання аўтараў найлепшых работаў, пададзеных сёлета на фестываль AD.NAK!, адбылася 27 чэрвеня ў Мінску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханэса Раў (IBB).

Урачыстай цырымоніі ўзнагароджання папярэднічала шырокая адукацыйная праграма, дзе ў якасці спікераў былі майстры рэкламы не толькі з Беларусі, але і з далёкай Японіі. Сёлета на Фестываль AD.NAK! было пададзена 314 работ ад 105 удзельнікаў. Напрыклад, у 2012 годзе было пададзена 330 работ ад 110 удзельнікаў, у 2011 годзе – 272 работы ад 100 удзельнікаў, а ў 2010 годзе – 105 работ ад 59 удзельнікаў. Прычым сёлета геаграфія ўдзельнікаў пашырылася. Акрамя беларускіх рэкламных агенцтваў свае работы на Фестываль даслалі таксама літоўскія рэкламісты.

"Адметнасцю нашага фестывалю штогод з'яўляецца арыентацыя на сацыяльную і грамадскую значнасць праектаў, цікава, што сёлета на "Канскіх львах" золата атрымалі ў асноўным сацыяльныя праекты, таму сёння мы можам казаць пра адпаведнасць нашага фестывалю сусветным трэндам", — адзначыў Сяргей Скараход, кіраўнік рэсурсу Marketing.by, што з'яўляецца суарганізатарам фестывалю.

Сёлета журы Фестывалю AD.NAK! прысудзіла ажно два Гран-пры. Поўны спіс пераможцаў Чацвёртага фестывалю беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі апублікаваны на сайце Фестывалю www.adnak.by.

Ніна Шыдлоўская, каардынатарка грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!", што з'яўляецца ініцыятарам Фестывалю AD.NAK!, адзначыла: "Аргкамітэт Чацвёртага фестывалю беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK! фіксуе ўстойлівы попыт на беларускамоўную рэкламу сярод спажыўцоў. У 2009 годзе 37% рэспандэнтаў, апытаных грамадскай культурніцкай кампаніяй "Будзьма беларусамі!", лічылі, што рэклама павінна быць па-беларуску. Ужо ў 2012 годзе за беларускамоўную рэкламу выступалі 55,6% рэспандэнтаў. Застаецца спадзявацца, што мерказванне спажыўцоў будзе пачутае ўдзельнікамі рэкламнага рынку, і якасная беларускамоўная рэклама будзе з'яўляцца больш. У сваю чаргу вынікі Чацвёртага фестывалю AD.NAK! сведчаць пра ўстойлівыя пазітыўныя тэндэнцыі ў развіцці гэтага сектара".

*Паводле budzma.org*

# СВЯТА АГНЮ, ЗЯМЛІ І ВАДЫ

Купалле адзначыла Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага.

У самую кароткую ноч гэтага года, з 22 на 23 чэрвеня, на беразе Ангары, у вусці ракі Тальцінка ўсю ноч вадзілі карагоды, спявалі народныя песні і весяліліся.

У дзень сонцавароту Купалле адзначаюць яшчэ з паганскіх часоў. Абавязковы і традыцыйны элемент Купалля ва ўсіх славянскіх народаў – варажба па вянках. Так дзяўчаты могуць даведацца свой лёс, за каго і як неўзабаве выйдуць замуж. Выявілася, не ўсё так проста. Каб варажба была праўдзівай, трэба асаблівым чынам сплесці вянок і прахадзіць у ім усю ноч. Толькі тады вада адкрые будучыню. Таму перш за ўсё вядучы і арганізатар мерапрыемства Алег Рудакоў адправіў усіх дзяўчат у поле збіраць кветкі і травы для вянкоў. Пасля дзяўчаты, сеўшы на паляне ў кола, сплялі сабраныя расліны ў вянкі пад адмысловыя рытуальныя песні ансамбля аўтэнтычных спеваў "Крывічы". Музыка напаўняла будучыя вянкі асаблівай энергіяй. Мужчын у сярэдзіну кола строга не пускалі – не дазволена. Як і насіць вянкі – акрамя дубовых. Але дубоў на беразе Ангары не знайшлося. У вянках дзяўчаты, нават тыя, што не былі ў беларускіх касцюмах, глядзеліся вельмі прыгожа і выдатна ўпісаліся ў дзейства.

Тым часам мужчыны накрылі доўгі стол, і пачаўся баль пад песні і вясёлыя прыпеўкі, палова з якіх была на беларускай мове.

Галоўнае ў Купаллі – гэта ачышчэнне праз агонь, траву і ваду. Калі сцямнела, хлопцы сабраліся, каб распаліць вялікае вогнішча. Тут ужо ніякіх жанчын! Паводле правілаў, вогнішча мусіць загарэцца ад іскры. Лічыцца, што такі агонь падтрымлівае сілу сонца. І вось ноч асвяцілася святым полымем, і пачаліся карагоды: звычайныя, змейкай, у некалькі шэрагаў... Часам збоку здавалася, што ў ланцужка людзей няма ні пачатку, ні канца – відовішча заварожвала!



Пасля такіх карагодаў традыцыйныя беларускія танцы здаліся не такімі ўжо складанымі. Полькі, "Маразуля", "Ойра" – пара хвілін на тлумачэнне рухаў, і вось ужо некалькі дзясяткаў пар весела скача.

Так нечакана надышла кульмінацыя Купалля, самы таямнічы звычай – пошук папараць-кветкі. Яна распускаецца толькі апоўначы і роўна на 15 хвілін. Але арганізатары для цікавасці дадалі сваю бутафорскую папараць-кветку. Але ні той, ні іншай, на жаль, знайсці не ўдалося, на гэты раз таямніца засталася таямніцай.

Не абышлося і без нядобразычліўцаў – "нячысцікі" прыйшлі сапсаваць свята. Яны прынеслі свой агонь замест правільнага, запаленага ад іскры, атачылі вогнішча і зладзілі фаершоў. Галоўны нячысцік прапанаваў спаборніцтвы, і слаўныя беларусы з гонарам абаранілі дабро: малайцы пабілі дэманаў у скачках праз канат і кіданні бярвёнаў. Больш нячыстая сіла на Купалле не совалася, і танцы працягваліся да самай раніцы.

На досвітку, калі ў прысутных амаль не засталося сіл, Алег Рудакоў зварыў традыцыйны лячэбны і танізуючы напой з 40 зёлак – узвар. Гэта было другое ачышчэнне – травой. Пасля яго бадзёрасць вярнулася, і дзяўчаты рушылі варажыць на вянках. Басанож яны спусціліся да Ангары і з першымі праменямі сонца апусцілі вянкі ў туманную ваду.

Завяршыла Купалле трэцяе ачышчэнне – абрад купання ў гаючай вадзе. Усё гэта для таго, каб у самую кароткую ноч года ўступіць у гармонію з прыродай, бо ў жыцці кожнага чалавека з кожным годам яе застаецца ўсё менш.

*Паводле Аляксандры Луканінай*
*Фота Алены Макаравай*

# У Кіеве адкрылася кавярня пад бел-чырвона-белым сцягам і з беларускім меню

Ва ўкраінскай сталіцы адкрылася ўнікальная беларуска-ўкраінская кавярня "Панскія пляцкі". Адна з яе залаў – беларуская. Яна аздобленая беларускімі нацыянальнымі колерамі – белым і чырвоным. А дапаўняе беларускі каларыт герб Пагоня.

У зале гучыць беларуская музыка, а інтэр'ер упрыгожваюць саламяныя вырабы. Меню на дзвюх мовах – беларускай і ўкраінскай. Другое памяшканне кавярні выканалі ў жоўта-блакітных украінскіх колерах.

Гаспадыні арыгінальнай установы – актывісткі беларускага цэнтра ва Украіне Юлія Шаўлоўская і Галіна Сарочык. Ідэя нестандартнай кавярні нарадзілася падчас жыцця ва Украіне. Распрацавалі інтэр'ер, меню, знайшлі адпаведнае памяшканне. Герб Пагоня зрабіў беларускі мастак Генік Лойка. Упрыгожанні з саломкі таксама выканалі на замову ў Беларусі. Украінскі шэф-кухар Руслан Луцэнка распрацаваў меню, фірмовая страва якога, вядома ж, – беларускія дранікі.

У будучыні ў кавярні плануецца спраўляць нацыянальныя беларускія святы, ладзіць імпрэзы для дзяцей. Галоўная ж мэта кавярні – паказаць беларускую культуру ўкраінцам. Нягледзячы на тое, што кавярня працуе толькі першы месяц, наведнікі ўжо паспелі зрабіць установе адмысловыя падарункі, сярод якіх – партрэт гетмана Яна Карла Хадкевіча і футболка ад фанатаў "Ляпіса". З цягам часу плануецца зрабіць стэнд, на якім пакажуць усе прэзенты гасцей.

*Паводле Белсата*

# У Міхалове ўшанавалі памяць Міколы Гайдука

Памяць беларускага педагога, публіцыста, аўтара гістарычных эсэ і вершаў, сына міхалоўскай зямлі Міколы Гайдука ўшанавалі ў Міхалове. Сям'я, вучні і знаёмыя наведалі родную Кабылянку, дзе нарадзіўся шматгадовы журналіст "Нівы", "Часопіса" і "Праваслаўнага агляду".

У Майстэрні фільма, гуку і фатаграфіі ў Міхалове адкрылася таксама выстава, прысвечаная творчасці Міколы Гайдука. Удзельнікі ўрачыстасцяў, прымеркаваных да 80-й гадавіны з дня нараджэння пісьменніка, сустрэліся на супольнай малітве ў мясцовай царкве.

Кажа пісьменнік Віктар Швед: "Успамінаю яго амаль штодзённа. Гэтыя ўрачыстасці адбываюцца і ў Бельску, бо ён быў дырэктарам Бельскага беларускага ліцэя, і тут, у Міхалове, бо ў Кабылянцы ён нарадзіўся".

Мікола Гайдук нарадзіўся 29 траўня 1933 года ў вёсцы Кабылянка. Скончыў у 1951 годзе агульнаадукацыйны ліцэй у суседнім Міхалове. Тут таксама два гады працаваў у гміннай управе. Гайдук, апрача сваёй пісьменніцкай і журналісцкай дзейнасці, быў дырэктарам Бельскага беларускага ліцэя і аўтарам падручнікаў па беларускай мове. Памёр у 1998 годзе.

Напрыканцы ўдзельнікі ўрачыстасцяў усклалі кветкі на магілу Міколы Гайдука на праваслаўных могілках у Беластоку.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

# Праваабаронцы "Вясны" наведалі могілкі Росы ў Вільні

9 чэрвеня, у дзень народзінаў Івана Луцкевіча, праваабаронцы і юрысты "Вясны" наведалі могілкі Росы ў Вільні. Апранутыя ў новыя цішоткі з надпісам "ВЯСНА – не толькі пара года" яны прайшліся ад Беларускага дома правоў чалавека ў выгнанні да знакамітага гістарычнага месца. Ад самага пачатку на могілках знакамітых продкаў меркавалася зрабіць талаку, але нехта клапатлівы на іх ужо належным чынам прыбраўся. Такім чынам, меркаваная талака пераўтварылася ў пазнавальную экскурсію. Праваабаронцы сфатаграфаваліся на памяць ля помнікаў Івану Луцкевічу ды Францішку Аляхновічу. Дзякуючы "талацэ" многія з іх апынуліся ў гэтым гістарычным месцы ўпершыню.

***

Нагадаем, што 9 чэрвеня 2013 года споўнілася 132 гады з дня нараджэння вядомага палітыка і навукоўца Івана Луцкевіча.

Разам са сваім братам Антонам ён быў адным з галоўных ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе.

Іван Луцкевіч нарадзіўся 9 чэрвеня 1881 года ў літоўскім Шаўляі. Ён паходзіў з шляхецкага роду герба "Навіна".

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

# У Расіі адкрылі памятную дошку Максіму Гарэцкаму




У горадзе Кіраве (да 1936 года — мястэчка Пясочня) Калужскай вобласці з'явілася мемарыяльная дошка беларускаму пісьменніку.

Дошка адкрыта на будынку былой Пясочненскай сярэдняй школы № 1 (цяпер у будынку размяшчаецца школа-інтэрнат для дзяцей з праблемамі слыху).

У школе Максім Гарэцкі працаваў два навучальныя гады: выкладаў рускую мову і літаратуру. Тут у лістападзе 1937 года ён быў арыштаваны органамі НКУС і 10 лютага 1938 года расстраляны ў Вяземскай турме.

Таксама хутка ў памяшканнях школы з'явіцца стэнд з матэрыяламі аб жыцці і дзейнасці пісьменніка.

*Паводле "Еўрарадыё"*

# Ствараецца Міжнародны беларускі архіў

Пазаўрадавая польская арганізацыя Цэнтр "Карта" стварае Міжнародны беларускі архіў. Цягам бліжэйшага паўгоддзя архіў пачне працу ў Варшаве. На пытанне, чаму палякі вырашылі фіксаваць навейшую гісторыю Беларусі, адказвае Мацей Вырва з Цэнтра "Карта": "Адказ вельмі просты: бо да гэтага часу не з'явіўся Міжнародны беларускі архіў. "Карта" мае вопыт 30-гадовай працы як пазаўрадавая арганізацыя, якая займаецца гісторыяй XX стагоддзя, і шмат гадоў рэалізуе архіўныя праграмы. Таму мы хочам у гэтай справе дапамагчы беларусам".

Міжнародны беларускі архіў збірае між іншага фотаздымкі, запісы відэа, мемуары і дзённікі, пісьмовыя дакументы на беларускай мове, але прымаюцца таксама матэрыялы на іншых мовах. Як адзначаюць стваральнікі, архіў у будучыні будзе перададзены ў Мінск, як толькі ў Беларусі пройдуць дэмакратычныя змены.

*Ганна Мордань,*
*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі ўзначаліў Мікола Пачкаеў

Адна з найстарэйшых арганізацый беларускай эміграцыі — Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі — у чэрвені абрала новае кіраўніцтва. Шматгадовую старшыню ЗБВБ Лёлю Міхалюк змяніў на пасадзе Мікалай Пачкаеў.



*Лёля Міхалюк і Мікола Пачкаеў © Беларусы Брытаніі*

67-ы гадавы з'езд Згуртавання адбыўся 8 чэрвеня ў Лондане. У зале Беларускага дома сабралася каля двух дзясяткаў сяброў ЗБВБ, сярод іх – некаторыя з найстарэйшых сяброў арганізацыі ды адзін з яе заснавальнікаў, айцец Аляксандр Надсан. На з'ездзе былі прынятыя змены ў статуце, у якім цяпер адмыслова акрэсленыя мэты ЗБВБ як грамадска-палітычнай арганізацыі, якая кіруецца ў сваёй дзейнасці ідэаламі незалежнай і дэмакратычнай Беларусі, акрэсленымі ў Акце 25 сакавіка 1918 года.

Адметнай падзеяй з'езду стаўся сыход з пасады шматгадовае старшыні Згуртавання Лёлі Міхалюк.

Разам са сваім мужам, нябожчыкам Янам Міхалюком, які ўзначальваў ЗБВБ цягам 25 гадоў, спадарыня Лёля стаяла ля пачаткаў беларускага жыцця ў паваеннай Брытаніі, паведамляе прэс-служба ЗБВБ.

Лёля Міхалюк пераняла кіраўніцтва арганізацыяй у 1997 годзе і ад таго часу заслужыла глыбокую павагу сярод беларусаў свету за сваю самаахвярную працу. Яе цвёрдыя перакананні і адданасць беларускай ідэі паспрыялі ўмацаванню ЗБВБ, калі беларуская дыяспара перажывае змену пакаленняў.

На знак пашаны, з'езд надаў спадарыні Міхалюк тытул Ганаровай старшыні ЗБВБ.

У сваёй прамове сп. Пачкаеў запэўніў з'езд, што будзе пільна захоўваць прынцыпы, на якіх Згуртаванне было заснаванае ў 1946 годзе, і шукаць належныя выразы для гэтых прынцыпаў у заўсёды новых абставінах.

***

Мікола Пачкаеў нарадзіўся ў 1973 г. у Мінску, скончыў СШ № 4, вучыўся на гістфаку БДУ, з 1994 г. вучыўся ў шэрагу заходніх ВНУ, у прыватнасці, у 1997—1998 гг. на магістарскай праграме ва ўніверсітэце Кембрыджа, затым на доктарскай праграме. У Вялікабрытаніі жыве стала ад 2000 г. Сябра Рады БНР ад 2005 г., сакратар ЗБВБ у 2003—2004 гг., намеснік старшыні ЗБВБ з 2004 г.

*"Наша Ніва"*

## Беларусы Лондана зладзілі флэшмоб супраць смяротнага пакарання

Акцыя "Give A Body Back!" нагадвае месца тэракту. Людзі ляжаць на асфальце ў пакетах для трупаў, побач — паліцэйскія машыны.

6 чэрвеня з 8-й раніцы беларусы Лондана ладзяць флэшмоб супраць смяротнай кары. Яны нагадваюць пра тое, што ў Беларусі цела расстралянага паводле судовага прысуду не выдаецца сваякам і хаваецца ў невядомым месцы.

Флэшмоб арганізаваны кампаніяй "Free Belarus Now". "Так мы праліваем святло на сотні людзей, якія "зніклі" ці былі пакараныя смерцю. Жывыя целы будуць нерухома ляжаць у пакетах — вярніце цела перад тым, як яно стане трупам", — гаворыцца на сайце кампаніі. Беларусь застаецца адзінай еўрапейскай краінай, у якой практыкуецца смяротнае пакаранне.

*"Еўрарадыё"*

## У Беластоку паказалі фільм пра Сакрата Яновіча

Дакументальны фільм Пятра Садзіньскага пра вядомага беларускага пісьменніка прэзентавалі ў Беластоку. Дакументалісты ў Крынках правялі некалькі дзён разам з выбітным беларусам – у выніку з запісаных інтэрв'ю атрымаўся 25-хвілінны кінадакумент. "Гэты кінадакумент важны як для беларусаў Беласточчыны, так і для палякаў, – зазначае Павел Грэсь з фонду "Віла Сакратас", – бо сёння не знойдзем шмат відэасведчанняў пра жыццё і творчасць выдатнага беларускага пісьменніка". Прэзентацыя фільма "Сакрат Яновіч: як я стаў беларусам" прайшла ў межах літаратурнага фестывалю "Прачытаць Беласток".

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

## Ушанаванне памяці Васіля Быкава

Сёлета споўнілася 10 гадоў, як спачыў вялікі беларускі пісьменнік, першы Прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Васіль Быкаў. 22 чэрвеня, у дзень яго смерці, кіраўніцтва Згуртавання і Саюза беларускіх пісьменнікаў наведалі Усходнія могілкі Мінска і аддалі даніну павагі і памяці Васілю Уладзіміравічу, усклаўшы вянкі на яго магілу.

Адначасна магілу Васіля Быкава наведвала дэлегацыя ад амбасады Украіны ў Рэспубліцы Беларусь.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



*На здымку: Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская ўскладаюць кветкі на магілу Васіля Быкава*

## ВІНШУЕМ ЛІТАРАТУРНАЕ АБ'ЯДНАННЕ "БЕЛАВЕЖА" З 55-ГОДДЗЕМ ДЗЕЙНАСЦІ!

Шаноўны спадар Ян Чыквін! Шаноўныя сябры літаратурнага аб'яднання "Белавежа"!

Сардэчна віншуем вас з 55-гадовым юбілеем! Вы зрабілі вялізарны ўнёсак у культурную, літаратурную спадчыну Беларусі! Плён вашай доўгатэрміновай дзейнасці – публікацыі некалькіх сотняў аўтараў, выданне вялікай колькасці кніг па-беларуску. Спадзяемся, што ў Беларусі надыдзе той час, калі дзейнасць вашага аб'яднання будзе належна ацэнена, а творы сяброў "Белавежы" будуць вывучацца ў школе. Дзякуй вам за тое, што вы робіце дзеля паглыблення нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, дзеля таго, каб гучала беларускае Слова, каб беларусы Польшчы адчувалі сваё духоўную еднасць з Радзімай.

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і сакратарыят ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў ад шчырага сэрца віншуюць вас з такім цудоўным юбілеем! Жадаем "Белавежы" яшчэ многіх і многіх гадоў дзейнасці, а ўсім яе сябрам – творчых поспехаў, нязгаснага натхнення і аптымізму!

Жыве беларускае Слова! Жыве Беларусь!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*Сакратарыят ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"*

## БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У ГАЙНАЎЦЫ. 30 ГАДОЎ – ГІСТОРЫЯ – ФАКТЫ – ЛЮДЗІ

Да 30-годдзя Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы была выдадзеная манаграфія "Беларускі музей у Гайнаўцы. 30 гадоў – Гісторыя – Факты – Людзі" пад рэдакцыяй Тамаша Ціханюка.




Выданне змяшчае справаздачныя матэрыялы, артыкулы і ўспаміны, запісы з гасцявой кнігі музея на польскай і беларускай мовах, а таксама шэраг копіяў дакументаў, лістоў і фотаздымкаў, прысвечаных гісторыі і дзейнасці музея.

Гісторыя музея апісваецца, пачынаючы з 50-х гадоў XX стагоддзя, калі толькі паўстала ідэя стварэння музея, "які б захаваў каштоўную этнаграфічную спадчыну беларускага народу, што ад незапамятных часоў пражывае ва Усходняй і Паўднёвай Беласточчыне", у выніку чаго ў 1966-м годзе паўстаў Рэгіянальны беларускі этнаграфічны музей у Белавежы, які праіснаваў да 1973 года.

Праз 10 гадоў пасля гэтага быў створаны Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы, старшынёй якога быў абраны Кастусь Майсеня.

Выдаткі на пабудову музея падзяляліся паміж польскім і беларускім бакамі, таксама значная дапамога была зроблена, дзякуючы індывідуальным ахвяраванням і грамадскай працы. Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" не толькі спрыяла таму, каб ад адміністрацыйных структур Беларусі паступала дапамога на будаўніцтва, але і само зрабіла немалы ўнёсак у справу пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, забяспечыўшы яго мармурам, якім цяпер выкладзеныя сцены будынка, а некаторыя сябры Згуртавання зрабілі значныя асабістыя фінансавыя ахвяраванні на ўзвядзенне музея.

Пабудова музея завяршылася ў 2001 годзе, а сваёй мэтавай дзейнасцю ён мог займацца ўжо на наступны год. Цяперашнюю назву музей атрымаў у 2003 годзе.

Постаці Кастуся Майсені, які ад самага пачатку вельмі актыўна ўзяўся за працу стварэння музея, зрабіўшы яе сэнсам свайго жыцця, прысвечаны асобны раздзел кнігі. Рэдактар манаграфіі Тамаш Ціханюк адзначае, што першая манаграфія Беларускага музея ў Гайнаўцы ёсць "актам пашаны стваральніку Музея, светлай памяці Кастусю Майсеню".

Кніга выдадзеная ў 2012 годзе пры падтрымцы польскага Міністэрства адміністрацыі і аблічбоўкі, а таксама амбасады Рэспублікі Беларусь у Польшчы.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў ліпені:

**Алега Гардзіенку, Наталлю Гардзіенка, Барыса Пятровіча (Сачанку), Алеся Станкевіча** (Беларусь), **Яўгена Грушу** (Аўстралія), **Сяргея Кандыбовіча** (Расія), **Алега Давідзюка** (Літва), **Ганну Сурмач** (ЗША), **Алеся Ядчанку** (Украіна). Зычым радасці і добрых навінаў, выдатнага здароўя і святла ў душы!



1 ліпеня Дзень нараджэння кіраўнік аМГА "ЗБС "Бацькаўшчына" **Алены Макоўскай.** Віншуем імянінніцу ад усяго сэрца і зычым заставацца такой жа вясёлай і прыгожай, а таксама жадаем добрага настрою, прыемных падзеяў у жыцці і ўсяго самага найлепшага!



## ВІНШУЕМ БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У ГАЙНАЎЦЫ З ЮБІЛЕЕМ!

Шаноўныя сябры!

Сёлетні год – юбілейны для Беларускага музея ў Гайнаўцы: 30 гадоў таму быў створаны Грамадскі камітэт пабудовы музея, які ачоліў Кастусь Майсеня. Менавіта дзякуючы намаганням камітэта і яго першага старшыні ў Гайнаўцы пастаў беларускі музей як сімвал любові беларусаў да сваёй радзімы, да роднай культуры. Музей за гады сваёй дзейнасці стаўся не толькі экспазіцыяй беларускай культуры, але яшчэ і культурніцкім цэнтрам, дзе ладзяцца цікавыя і пазнавальныя мерапрыемствы. Шмат у чым дзякуючы дзейнасці музея сцвярджаецца спрадвечная прысутнасць беларусаў на землях Беласточчыны.

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" шчыра віншуе вас, дарагія сябры, з 30-гадовым юбілеем Грамадскага камітэта! Зычым росквіту музею, а вам ды спрыяльнікам вашай справы здароўя, аптымізму, натхнення і веры ў сваю справу!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## МАЛАДЫЯ НАВУКОЎЦЫ ЯК АПІРЫШЧА БЕЛАРУШЧЫНЫ



20 чэрвеня ў Беларускім Доме ў Варшаве пры падтрымцы кампаніі "Разам для Беларусі" адбылася сустрэча з прадстаўнікамі новай генерацыі даследчыкаў беларускай гісторыі і культуры.

Кандыдат гістарычных навук Ігар Мельнікаў распавёў пра вэб-праект "Гістарычная праўда" (http://www.istpravda.ru/bel/), які, сярод іншага, змяшчае шэраг адмысловых матэрыялаў па гісторыі нашай Бацькаўшчыны, а кандыдат культуралогіі Ірына Шумская пазнаёміла грамадскасць з асноўнымі кірункамі дзейнасці незалежнага Інстытута беларускай гісторыі і культуры (ІБГК), а таксама створанага сёлета Мінскага гарадскога Таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага (ТАБГ). Асаблівая ўвага была нададзена асветніцкім матэрыялам, якія рэгулярна з'яўляюцца на сайце ІБГК (http://inbelhist.org/) і найноўшай кніжнай серыі "100 выдатных дзеячаў беларускай культуры", у межах якой ужо выдадзена некалькі навукова-папулярных брашур. Паводле меркавання даследчыцы, працэс захавання культурнай спадчыны і абуджэння гістарычнай памяці народа наўпрост залежыць ад актыўнасці і неабыякавасці абсалютна кожнага з яго прадстаўнікоў, а не толькі ад дзяржаўнай палітыкі.

Адначасова ўсе наведнікі мерапрыемства змаглі азнаёміцца з экспазіцыяй мастацкай выставы "Першапачатак", якая прадстаўляе сучасных беларускіх пісьменнікаў у незвычайных міфалагічных постацях. Усяго ў праекце, прымеркаваным да юбілею Саюза беларускіх пісьменнікаў, узялі ўдзел 14 беларускамоўных літаратараў, сярод якіх такія вядомыя мэтры прыгожага пісьменства, як Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Уладзімер Арлоў, Леанід Дранько-Майсюк і іншыя, не менш цікавыя і таленавітыя асобы.

На здымках, выкананых Валерыем Дубоўскім, пісьменнікі ператварыліся ў наступных персанажаў славянскай міфалогіі: Бай, Дамавік, Лесавік, Жыжаль, Жыцень, Лазнік, Русалка, Лёля, Бордзя, Цёця, чэрці. Ініцыятаркай праекта выступіла паэтка Ірына Хадарэнка. На адкрыццё выставы сабраліся прадстаўнікі беларускай супольнасці, якія цяпер пражываюць у Польшчы. У Мінску экспазіцыя будзе дэманстравацца з восені.

*Паводле прэсавай службы Беларускага Дома ў Варшаве і "Новага Часу"*

## БЕЛАСТОЦКІ АСЯРОДАК КУЛЬТУРЫ АДКРЫЎСЯ ПАСЛЯ РАМОНТУ

Завершаны рамонт Беластоцкага асяродка культуры. Ён гатовы прымаць гасцей. Пра гэта паведаміла дырэктар установы Гражына Дваракоўская. "Для нас было вельмі важна, каб у выніку гэтага рамонту з'явілася тое, што наблізіла б культуру да асобаў з абмежаванымі магчымасцямі. Некалькі гадоў мы дамагаліся, каб у нас з'явіўся адмысловы ліфт. Быў клопат з тым, каб у ранейшыя аб'ёмы будынка ўмантаваць нешта новае. У часе размоваў з праекціроўшчыкамі мы пераканаліся, што зможам гэтую праблему вырашыць. І гэты ліфт у нас з'явіўся. Некаторыя нам казалі, што не прыходзілі да нас з гэтай прычыны. Прычына знікла. Запрашаем да сябе".

Беластоцкі асяродак культуры штогод арганізуе каля 200 імпрэзаў з удзелам больш за 45 тысяч чалавек.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## ЦЭНТРУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў КІЕВЕ НАДАЛІ ІМЯ КАРАТКЕВІЧА

12 чэрвеня Цэнтру беларускай мовы і культуры Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі нададзенае імя Уладзіміра Караткевіча.

Пра гэта "Свабодзе" паведаміла літаратарка, дацэнт кафедры славянскай філалогіі Інстытута філалогіі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта Надзея Старавойтава.

З гэтай нагоды адбылася імпрэза, у якой сярод іншых бралі ўдзел амбасадар Беларусі ва Украіне Валянцін Вялічка і намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Міхневіч. Пабеларуску яны не гаварылі.

Пасля ўрачыстай часткі прысваення Цэнтру беларускай мовы і культуры імя Уладзіміра Караткевіча ў гонар вядомага беларускага класіка гучалі вершы і запіс яго голасу.

*"Радыё Свабода"*

## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МАЙСТАР-КЛАС ПА ВЫШЫЎЦЫ Ў ТАРОНТА

8 траўня адбыўся мой першы майстар-клас па беларускай традыцыйнай тэхніцы вышыўкі "нізанка". Дзякуй Катрын Элісан (Kathrin Ellison) – гаспадыні крамы-студыі "Gitta's" – за запрашэнне ўзяць удзел у праграме "Дызайнер месяца".

Адмыслова для майстар-класа я падрыхтавала нескладаныя дызайны і, зразумела, схемы з інструкцыямі. А Катрын забяспечыла "матэрыяльнай базай": тканіну, ніткі, іголкі.

Напачатку майстар-класа я расказала, як я адкрыла для сябе нізанку, расказала пра гісторыю тэхнікі, паказала здымкі арыгінальных работ, старажытных і сучасных вырабаў. Пасля пачалася праца з іголкамі ды ніткамі... Майстар-клас прайшоў надзіва натхнёна і руплів. Усім вельмі спадабалася, усе выявілі жаданне працягнуць навучанне з больш складанымі схемамі на наступным майстар-класе.

*Паводле Ірыны Варабей*

## БЕЛАРУСЫ ПЕЦЯРБУРГА ЎШАНАВАЛІ АХВЯРАЎ СТАЛІНСКІХ РЭПРЭСІЙ

16 чэрвеня адбылася паездка беларусаў Пецярбурга на Левашоўскія могілкі – месца пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Пра гісторыю гэтага месца, дзе былі пахаваныя тысячы бязвінна закатаваных ахвяр сталінскага рэжыму, у тым ліку і жыхароў Беларусі, распавёў Мікалай Сакалоў. Была адслужаная паніхіда па загінулых святаром а. Кірылам (Петраградскім), Лявон Габрусёнак прачытаў малітву за Беларусь і за беларускі народ, у канцы мерапрыемства ў выкананні ўдзельнікаў мерапрыемства прагучаў беларускі рэлігійны гімн на муз. М.Равенскага, сл. Н.Арсенневай "Магутны Божа".

*Лявон Габрусёнак*

## У БЕЛАСТОКУ РАЗДАВАЛІ ПАКЕТЫ З ВЫЯВАЙ КАЛІНОЎСКАГА

16 чэрвеня актывісты кампаніі "Разам для Беларусі" правялі ў Беластоку акцыю сярод беларусаў, якія прыехалі ў Польшчу "на закупы".

Акцыя прайшла каля беластоцкіх гіпермаркетаў. На пакетах была змешчана выява Кастуся Каліноўскага і віншаванне з 150-годдзем вызваленчага паўстання.

Сёлета гэта другая такая акцыя актывістаў. Мінулая таксама прайшла ў Беластоку. Тады беларусам раздаваліся пакеты з віншаваннем з Днём Волі.

*"Еўрарадыё"*

## АРГАНІЗАТАР “BELARUS ROCK PARTY” Ў МАСКВЕ СЯРГЕЙ МАЧНЕЎ: “Я ПРОСТА ВЕДАЮ, ШТО МУШУ ГЭТА РАБІЦЬ”

22 чэрвеня ў Маскве прайшоў чарговы канцэрт з шэрагу “Belarus night party”. Па аналогіі імпрэза атрымала назву “Belarus rock party”, але маштабам яна моцна адрознівалася ад папярэдніх канцэртных падзей праекта. Гэтым разам на маскоўскую сцэну запрасілі адразу чатыры калектывы з Мінска: “Martin S.”, “Мутнае вока”, “Разбітае сэрца пацана” і “IQ48”. Ідэя праводзіць канцэрты беларускамоўных гуртоў у Маскве нарадзілася ў чалавека, які да музыкі, як і да арганізатарскай працы ў галіне культуры, раней дачынення не меў. З ініцыятарам беларускіх канцэртаў у Маскве Сяргеем Мачневым паразмаўляў Алесь Кот-Зайцаў.

**Алесь Кот-Зайцаў:** Сяргей, як так склалася, што ты ў Маскве пачаў рабіць беларускія канцэрты?

**Сяргей Мачнеў:** Раней у Маскве былі розныя тусоўкі дыяспар, была пэўная культурніцкая актыўнасць. Але потым настаў час, калі ўсё заціхла. І я вырашыў стварыць суполку ў сацсетках, дзе беларусы Масквы маглі б падтрымліваць сувязь, даведвацца пра беларускія падзеі, выставы, тэатральныя пастановы і г.д. Спачатку я проста зліваў туды ўсе мерапрыемствы, якія датычыліся беларускай культуры — і рускамоўныя, і беларускамоўныя. У пэўны момант, калі я пабачыў, што сапраўды нічога цікавага не адбываецца, я вырашыў зрабіць нешта самастойна. Так адбыўся першы канцэрт “Belarus night party”.

**АКЗ**: Калі ты жыў яшчэ ў Беларусі, ці цікавіла цябе беларускамоўная культура, музыка?

**СМ**: У Маскву я прыехаў вучыцца ў ВНУ, калі мне было 17 гадоў. Сам я родам з Ашмянаў. Самае цікавае, што ў падлеткавым узросце я цярпець не мог рок-музыку, беларускую ў тым ліку. Але аднойчы майму брату з Масквы, што таксама досыць сімвалічна, сябар прывёз касету NRM “Тры чарапахі”. Мне спадабалася. З тых часоў я пачаў выпісваць “Музычную газету”, якая была досыць папулярнай у той час, і мая цікавасць да беларускай музыкі, культуры, мовы зрабілася досыць актыўнай.

**АКЗ**: Па пераездзе ў Маскву ці лёгка было гэтую цікавасць захаваць? Бо тут рускамоўнае асяроддзе, і шараговаму беларусу найпрасцей асімілявацца, што і адбываецца з большасцю нашых суайчыннікаў.

**СМ:** Я мэтанакіравана захоўваў у сабе беларускасць. Да прыкладу, я заўжды чытаю навіны толькі па-беларуску. Наколькі я ведаю, большасць беларусаў Масквы менавіта так захоўваюць сваю беларускасць — праз навіны, літаратуру. Цяпер, канечне, вельмі дапамагаюць сустрэчы “Мова ці кава”. Шмат людзей, студэнтаў з Беларусі прыязджаюць у Маскву, і такія сустрэчы — гэта рэальна вельмі добрая магчымасць не губляцца і захоўваць сваю беларускасць.

**АКЗ**: Як ты ставішся да таго, што шмат якія беларусы за мяжой усё ж перастаюць адчуваць сябе беларусамі? Асабліва гэта тычыцца Расіі, Масквы, дзе культурніцкі і моўны бар’ер амаль адсутнічае.

**СМ:** Я заўжды казаў, што галоўнае для беларуса ў замежжы — гэта пазіцыянаваць сябе як беларуса. Калі ў мяне хтосьці пытае адкуль я, я адказваю, што з Беларусі. І не важна нават, што немец ці японец можа не ведаць, што гэта за краіна і дзе яна. Гэта найперш іх праблема. У пэўнай ступені праблема гэтая і наша, канечне. Беларусаў па ўсім свеце вельмі шмат. Я ведаю беларусаў з Бразіліі, Нідэрландаў, Японіі, шмат адкуль. Калі б мы ўсе самі любілі і рэкламавалі сваю культуру, то пра Беларусь ведалі б паўсюль. Я ўпэўнены, што і ў Маскве, і ў любой іншай краіне наш абавязак — расказваць пра сваю культуру, музыку. Нават калі я не люблю Аляксандра Саладуху, то ў размове з рускімі я ніколі не скажу пра яго кепска, бо яны яго ўспрымаюць як беларускага спевака. А пра сваё я казаць кепска не буду.

**АКЗ**: Калі казаць шчыра, то сярод беларускамоўных беларусаў як у Беларусі, так і ў замежжы часта можна сустрэць у пэўнай ступені нелюбоў менавіта да Расіі, да рускіх. Як ты ставішся да такой з’явы?

**СМ:** Я думаю, што гэтага трэба пазбаўляцца. Калі глядзець на гістарычныя моманты, рознага кшталту тэрытарыяльныя спрэчкі, то Расія, на мой погляд, мусіць мець не найгоршую пазіцыю ў параўнанні з той жа Польшчай ці Літвой. А калі казаць пра палітычныя і моўныя пытанні, якія на сённяшні дзень існуюць у Беларусі, то я лічу, што тут усё залежыць ад саміх беларусаў. Не трэба шукаць апраўданняў і вінаватых звонку. Для беларусаў на сённяшні дзень вельмі важная менавіта культурніцкая сфера. Праз культуру беларусы змогуць палюбіць сваё, адчуць сваю еднасць. І гэта першы крок да вырашэння астатніх праблемаў.

*Паводле Алеся Кота-Зайцава*

*Цалкам гутарку чытайце на сайце zbsb.by або budzma.org*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІПЕНЬ 2013 ГОДА

2 ліпеня – 25 гадоў таму памёр Часлаў Ханяўка (1909–1988), дзеяч эміграцыі ў ЗША.

3 ліпеня - дзень вызвалення Мінска, сталіцы Беларусі, ад нямецка-фашысцкіх войскаў (1944 г.).

4 ліпеня – 25 гадоў таму, у 1988-м, у Вільні створаны беларускі клуб “Сябрына”.

5 ліпеня – 75 гадоў таму, у 1938-м, у Магілёве заснаваны Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (пераведзены ў Мінск у лістападзе 1963 г.).

8 ліпеня – 20 гадоў таму, у 1993-м, у Мінску пачаўся Першы з’езд беларусаў свету (доўжыўся 8–10 ліпеня).

12 ліпеня – 170 гадоў таму ў Грэфэнбергу памёр Ігнат Даніловіч (1788–1843), даследчык гісторыі права Вялікага Княства Літоўскага.

13 ліпеня – 20 гадоў таму, у 1993-м, у Магілёве прайшоў першы фестываль хрысціянскай музыкі “Магутны Божа”.

14 ліпеня – 100 гадоў таму, у 1913-м, у Вільні заснавана Беларускае выдавецкае таварыства. Надрукавала 15 кніг агульным накладам 50 тысяч асобнікаў.

14 ліпеня – 95 гадоў таму, у 1918-м, у Маскве адбылося першае публічнае пасяджэнне Беларускага навукова-культурнага таварыства (дзейнічала да 1919 г.).

15 ліпеня – 110 гадоў таму на хутары Лагуцева (цяпер Дзятлаўскі р-н) нарадзілася Алена Лябецкая (1903–1982), дзеяч Таварыства Беларускай Школы.

17 ліпеня – 95 гадоў таму, у 1918-м, у Маскве пачаўся Усерасійскі з’езд бежанцаў з Беларусі (доўжыўся да 21 ліпеня). Удзельнічала 227 дэлегатаў.

24 ліпеня – 15 гадоў таму, у 1998-м, у Вільні пачаўся Другі з’езд беларусаў Балтыі (доўжыўся 24–25 ліпеня).

26 ліпеня – 35 гадоў таму памёр Аляксей Васіленя (1899–1978), грамадска-палітычны дзеяч, дзеяч беларускай эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі. Пахаваны на беларуска-ўкраінскай частцы могілак Роквуд у Сіднеі (Аўстралія).

27 ліпеня – 25 гадоў таму памёр Серафім Татарын (1903–1988), грамадска-культурны дзеяч, актывіст Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады і Таварыства Беларускай Школы.

27 ліпеня – 20 гадоў таму, у 1993-м, у Гданьску (Польшча) адкрыўся Генеральны консулат Рэспублікі Беларусь.

27 ліпеня - дзень падпісання Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі, (1990 г.).

**Беларусы ў свеце**
№6(134), чэрвень 2013
Падпісана ў друк 08.07.2013
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”.
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by
тэл./факс (+375 17) 200-70-27